І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Студзень 2012-2

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну**

## Рыхтуй сані летам, а жалезнага каня - зараз!!!

прапануе гомельскі байк клуб **"БАЙКІ ПРОДКАЎ"**

стар. 8

**Ґамяльчук задушыў жонку, якая хацела сысці да маладога каханка**

стар. 4

**Гомельскія «пахавальнікі» куплялі інфармацыю пра нябожчыкаў у міліцыі**

стар. 6



# Мінкульт за драўляную забудову цэнтра Гомеля

***Прапанова аб наданні драўлянай забудове горада Гомеля статуса гісторыка-культурнай спадчыны будзе падтрымана Міністэрствам культуры.***

Аб гэтым сказаў начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігар ЧАРНЯЎСКІ 10 студзеня падчас «гарачай лініі», што арганізавала газета «Культура«.

З Ігарам Чарняўскім па тэлефоне размаўляў навуковы супрацоўнік Музея гісторыі горада Гомеля і сябар Гомельскага ТБМ Яўген Кавалеўскі. Акрамя праблемы, звязанай з драўлянай забудовай г. Гомеля, Яўген падняў пытанне занядбанага стану палаца ў вёсцы Хальч Веткаўскага р-на Гомельскай вобласці.



Вашай увазе размова, надрукаваная ў газеце «Культура №2 (1025) 14 студзеня 2012 г.

«Яўген КАВАЛЕЎСКІ, Гомель:

- Добры дзень! Наш горад цікавы не толькі палацам Румянцавых і Паскевічаў. У Гомелі захавалася драўляная архітэктура канца XIX – пачатку XX ст. А на вуліцы Карла Маркса дамы з унікальнымі карункамі проста зносяцца… У абласной газеце на гэты конт нават дыскусія разгарнулася. Навукоўцы прапануюць пераносіць гэтыя дамы ў іншае месца. Забудова не занесена ў Дзяржаўны спіс, таму цяжка яе абараніць. Спадзяёмся на вашу падтрымку.

Ігар ЧАРНЯЎСКІ:

- Яўген Міхайлавіч, мне тэма знаёмая, тым больш, я бачыў гэтыя дамы. Гомельшчына славіцца такой грамадзянскай жылой архітэктурай. У многім вырашэнне гэтага пытання залежыць ад вас. Ёсць згаданая ўжо пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 762 2006 года, што вызначае парадак уключэння аб'ектаў у Спіс гісторыка-культурнай спадчыны краіны. Там таксама можна знайсці пералік дакументаў, якія неабходна падрыхтаваць для надання аб'екту статуса каштоўнасці. Таму калі вы з калегамі, з мясцовым аддзелам культуры прапанову падрыхтуеце, то, канешне ж, яна будзе падтрымана. І – абавязкова разгледжана на Навукова-метадычнай радзе.

Яўген КАВАЛЕЎСКІ:

- Але мне казалі, што Генеральны план ужо падрыхтаваны… Таму з уключэннем у Спіс могуць быць пэўныя праблемы…

Ігар ЧАРНЯЎСКІ:

- Тут таксама ёсць розныя варыянты. Мы – я і вы – цалкам адэкватна ацэньваем праблемы драўлянай архітэктуры, асабліва – у нашых кліматычных умовах. Але, тым не менш, на сёння існуюць спосабы захавання падобнай адметнай забудовы. У свеце тэхналогія даўно вядомая. Гэта могуць быць спецыялізаваныя музеі – скансены, альбо спецыяльныя кварталы забудовы з прыстасаваннем яе пад турыстычныя,

Ідзеш увечары па цёмным парку, а насустрач пяцёра: "Аддавай тэлефон, пляншэт, ноўтбук і гадзіннік, гэта парк высокіх тэхналёгіяў!"

музейныя ды іншыя сацыяльныя функцыі. Я думаю, што калі дадзеную тэму актыўна прапрацаваць і ўнесці адпаведныя прапановы, перш за ўсё – гарадскім уладам, то Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, са свайго боку, гэтую ідэю абавязкова падтрымае.

Яўген КАВАЛЕЎСКІ:
- Дзякуй. У мяне яшчэ адно пытанне да вас. У нашым горадзе выдатна развіваецца Гомельскі палацава-паркавы ансамбль. Але ёсць яго філіял у вёсцы Хальч, дзе не ўсё гладка: там патрабуюцца пэўныя аднаўленчыя работы, бо стан помніка спадчыны – вельмі дрэнны…

Ігар ЧАРНЯЎСКІ:
- Міністэрства культуры падало заяўку ў фінансавыя органы краіны з прапановай выдаткавання сродкаў з рэспубліканскага бюджэту на давядзенне да ладу палаца ў Хальчы. Рашэнне па выдаткоўванні такіх сродкаў ужо ёсць. Іншая справа, што рэспубліканскі бюджэт мае права фінансаваць аб'екты камунальнай уласнасці (а палац у Хальчы якраз адносіцца да гэтай катэгорыі) на ўмовах долевага ўдзелу. Гэта значыць, што з абласнога бюджэту пад падобныя мэты павінна быць выдаткавана не менш за 50 працэнтаў ад патрэбнай сумы, як тое ўстаноўлена ў адпаведным Указе Прэзідэнта Беларусі 2006 года. А рэспубліканскі бюджэт, у сваю чаргу, дадае да гэтай сумы таксама прыкладна 50 працэнтаў неабходных сродкаў.

Яўген КАВАЛЕЎСКІ:
- Значыць, як я зразумеў, рашэнне па гэтым пытанні ўжо прынята?

Ігар ЧАРНЯЎСКІ:
- Па крайняй меры, мы гэтую тэму ўжо абмяркоўвалі і ведаем, што прапанова аб фінансаванні палаца ў Хальчы сродкамі рэспубліканскага бюджэту Міністэрствам культуры ўнесена. Цяпер дадзенае пытанне вырашаецца.

Яўген КАВАЛЕЎСКІ:
- Добра. Дзякуй вам за адказ!»

***Марыя Булавінская***

# Гомельскі фермер падазраецца ў забойстве прадпрымальніка з Бранска

***Канфлікт паміж 27-гадовым кіраўніком фермерскай гаспадаркі нараджэння і індывідуальным прадпрымальнікам з Бранска 1966 года нараджэння узнік на тэрыторыі харчовай базы агародніны ў Гомелі.***

Гамяльчанін вырашыў спрэчку, выкарыстаўшы мантыроўку. Цела камерсанта ён закапаў у боксе базы.

Матывы і абставіны забойства выствятляюцца.

***БелТА***

- Купіў ў вас шурупаверт, а ён трэснуў ...
- Доўга карысталіся?
- Ды адзін цвік забіў ...




Беларусы ў Вільні. Падыходзіць хлопец:
-- О, белорусы, земляки! Подскажете как пройти к вокзалу?
-- Вядома, ідзеш проста, на першым скрыжаваньні налева, тады зноў проста, і на наступным скрыжаваньні направа. А там пабачыш.
-- Э, ребята, а по-русски можно?
-- Конечно! Иди на ***!

# Гамяльчук задушыў жонку, якая хацела сысці да маладога каханка

***Гэтая гучная справа перапалохала Гомель — у падвале шматкватэрнага дома знайшлі труп жанчыны, якая больш за месяц лічылася зніклай без вестак.***

У забойстве прызнаўся яе муж, які сам і падаў заяву ў міліцыю аб знікненні жонкі.

Сямейная драма разыгралася ў канцы мінулага года.

На фотаздымках у крымінальнай справе — сімпатычная 38-гадовая жанчына Ірына і прывабны 41-гадовы Ігар (імёны зменены). Муж і жонка пражылі разам амаль 15 гадоў. Ірына працавала на хлебазаводзе, Ігар апошнім часам ездзіў на заробкі ў Маскву. Звычайная сям'я, праўда, бяздзетная. І чым старэйшай яны рабіліся, тым больш востра гэтая праблема ўставала паміж імі. Ірына вельмі хацела дзіця. Калі нарэшце пасля абследавання высветлілася, што праблемы са здароўем у Ігара, ён дазволіў жонцы паспрабаваць штучнае апладненне. Але ў Ірыны адбыўся выкідак. Тады муж пагадзіўся нават на тое, каб жонка зачала натуральным спосабам — знайшла кагосьці «на баку». Толькі без працягу адносін з гэтым кімсьці. Дамовіліся, што калі Ігар з'едзе ў чарговую камандзіроўку, Ірына можа завесці інтрыжку, зачаць дзіця і больш не сустракацца з каханкам. Гэта стала фатальным рашэннем для абодвух — любоўны трохкутнік прывёў да трагедыі.

З 28-гадовым Валерыем Ірына яшчэ ўлетку пазнаёмілася на пляжы.

Нягледзячы на свой узрост, малады чалавек ужо паспеў ажаніцца і развесціся. Ён таксама ездзіў у Расію на заробкі. Каханкі адразу пераступілі пазначаную для Ірыны рысу і пачалі сустракацца. Праўда, зачаць дзіця ўсё роўна не атрымлівалася, але жанчыну гэта не вельмі бянтэжыла.

— Яна ўвесь час скардзілася, што не можа зацяжарыць, муж лячыўся, але нічога не атрымлівалася. Яна ўжо нават змірылася, што не зможа мець дзяцей. Казала, што муж любіць выпіць. А калі гэты малады чалавек пачаў прыходзіць і жыць у яе, яна была ў захапленні. Казала, што адчула сябе жанчынай. Хлопец клапаціўся, дапамагаў ёй праць, гатаваць. Казала, што малады чалавек вельмі хацеў дзяцей, і гэта яе радавала. Сказала, што хоча развесціся з мужам, — расказваюць суседзі.




— Пасля вяртання з чарговай вахты Ігар даведаўся пра сувязь Ірыны — яна сама ўсё яму расказала. І прызналася, што зацяжарыць зноў пакуль не змагла. Муж сказаў, што гэта, напэўна, нейкі знак і што больш не трэба працягваць гэтую сувязь. Але калі Ігар зноў з'ехаў, жонка не перастала сустракацца з Валерам. Мала таго, яна падала на развод, — расказаў «Камсамолцы» следчы па асабліва важных справах упраўлення па Гомельскай вобласці Следчага камітэта Беларусі Алег Гаўрыленка.

— Я неўзабаве зноў прыехаў з Расіі. Была раніца, жонка яшчэ спала. Я лёг да яе ў ложак, хацеў прылашчыць, але яна сказала, што яе цалуе і абдымае ўжо іншы. І што ўчора яна падала заяву на развод. Мы пайшлі на кухню, а яна ўвесь час расказвала, як ёй добра з палюбоўнікам, што ўжо шмат разоў яны спалі разам, што яна гатавала яму боршч, што яны ездзілі на дачу збіраць грыбы. Я ўжо не вытрымаў і пайшоў курыць у ванную, а жонка ўсё гаварыла і гаварыла, быццам здзекуючыся. Разгулялася і рэўнасць, і крыўда — усе грошы ёй аддаваў, якія зарабляў, столькі разоў на мора вазіў! На пральнай машыне я ўбачыў нож, які там нехта пакінуў. Я ўзяў яго і адрэзаў кавалак вяроўкі для бялізны. Я адключыўся і наогул не разумеў, што раблю. Памятаю толькі, як падышоў да жонкі, а яна працягвала расказваць пра палюбоўніка, але я ўжо не мог яе слухаць. Сказаўшы «дык не даставайся ж ты нікому», накі-

нуў на шыю шнур і зацягнуў. У гэты момант перада мной пранеслася ўсё маё жыццё. Колькі гэта працягвалася, не ведаю, апамятаўся толькі, калі пачуў нейкі голас: «Што ж ты робіш!» Убачыў, што жонка ўжо мёртвая, з носа цячэ кроў, — даў паказанні следству Ігар.

У стане часовага вар’яцтва ён цалкам апрануў жонку (яму здавалася, што так будзе цяплей), зашпіліў нават куртку, узяў з сабой сумачку і вынес цела ў склеп.

Кватэра мужа і жонкі была на першым паверсе, жыхары дома былі на працы, таму «пахавання» ніхто не заўважыў. Ігар знайшоў добрае месца пад лесвіцай ў склепе. Там і закапаў труп. А зверху накідаў рознага металічнага хламу. Знайсці магілу было амаль немагчыма.

Адразу пасля забойства Ігар схадзіў у краму па піва. А на наступны дзень патэлефанаваў цешчы: «У вас няма маёй жонкі?» Маўляў, прыехаў, а ў кватэры пуста. Цешча параіла ісці ў міліцыю, што Ігар і зрабіў. Больш за месяц праваахоўнікі шукалі жанчыну па сваяках і знаёмых. Мяркуючы па характарыстыцы сяброў, уцячы з дому або здзейсніць самагубства яна не магла. А першае дакладнае падазрэнне прыйшло да следчага, калі ён папрасіў у Ігара ключ ад склепа. Той вельмі разнерваваўся. Але з тых часоў яшчэ прайшло нямала часу, пакуль муж напісаў прызнанне віны. Суседзі кажуць, што кожны дзень пасля знікнення Ірыны бачылі Ігара ў краме са спіртным.




— Я мог бы паехаць у Расію, там схавацца, але сядзеў дома. Таму што кожны дзень хацеў пайсці ў міліцыю і прызнацца. Хацеў, каб усё адкрылася, але баяўся. Я вельмі любіў жонку, яна шмат разоў снілася мне начамі, і я ўжо не мог трываць гэта, — прызнаўся забойца. Ён сам паказаў месца, дзе схаваў труп.

— Відаць, што мужчына мае патрэбу ў прыхільнасцях. Да жонкі ён быў прывязаны, а таксама да следчага, які вёў справу аб знікненні жанчыны. Менавіта дзякуючы таму, што міліцыянт змог наладзіць з абвінавачваным псіхалагічны кантакт, той прызнаўся.

Калі справу перадалі мне, і я прыйшоў выстаўляць мужчыну абвінавачванне, перш за ўсё ён спытаў: а дзе той следчы? Выглядае мужчына прыгнечаным, ва ўсім прызнаецца, не спрабуе неяк выкруціцца, вельмі перажывае, — кажа Алег Гаўрыленка.

А што ж каханак?

Як выявілася, Ірына вельмі перабольшвала сардэчнасць іх адносін:

Ніякай духоўнай сувязі ў мяне з ёй не было. Я сустракаўся толькі дзеля сэксу. На тое, што яна значна старэйшая за мяне, не звяртаў увагі. Некалькі разоў мы пераспалі, я быў не супраць ажаніцца з ёй. Казала, што муж сыдзе, і мы застанемся ў гэтай кватэры. А дзіцяці я не хацеў, пра дзяцей і гаворкі не было, — растлумачыў Валерый.

Следства яшчэ не скончанае, пасля завяршэння ўсіх неабходных экспертыз справа Ігара будзе перададзена ў суд. Па артыкуле за забойства яго могуць пакараць пазбаўленнем волі на тэрмін ад шасці да пятнаццаці гадоў.

*Павел Міцкевіч, kp.by*

Споведзь:

мужык- ойча, зграшыу я. У суседа такі касцюм цудоуны быу, што я не стрымауся - украу пінжак...

Святар- а ці шкадуеш?

Мужык- ай, так шкадую, так шкадую што і штаны не узяу.......

## Адкрыццё фотавыставы "ТУТ вам не ЗДЕСЬ" з удзелам гурта "DALI"

***Ты ўпэўнены, што ўсё цікавае ў жыцці адбываецца дзе заўгодна, але толькі не ТУТ?***

Ты прызвычаіўся бавіць свае выходныя завісаючы ў нэце альбо перад тэлекам?




ПРАДЗЯРЫ ВОЧЫ ДЫ АЗІРНІСЯ НАВОКАЛ - нават самыя звычайныя на першы погляд рэчы могуць стаць вынаходніцтвам!

Ня верыш? Тады пераканайся ў гэтым сам 29 студзеня. Менавіта у гэты дзень адбудзецца прэзентацыя творчых вынікаў першага ў жыцці Гомеля патрыятычнага фотапалявання "ТУТ вам не ЗДЕСЬ!". Вечарына адбудзецца з удзелам выбітнейшага мега-гурта "DALI" (чакаецца паўакустычны драйв).

Нагадаем, што у снежні 2011 г. гомельская "Талака" ладзіла тэматычнае фотапаляванне для ўсіх ахвотных, мэтай якога быў пошук у Гомелі таго, што нас адрознівае ад іншых.

*Кажа арганізатар фотавыставы, намесніца старшыні ГМКГА "Талака" Марыся Тульжанкова:*

"На наш погляд звычайныя рэчы могуць стаць вынаходніцтвам дастаткова праявіць цікаўнасць да наваколля. Мы не агітуем мы звяртвем увагу на нашу адметнасць на непаўторнасць нашай культуры. Маем тое, што маем і права кожнага ганарыцца гэтым ці саромецца, галоўнае - НЕ БЫЦЬ АБЫЯКАВЫМ!".

Музычнае суправаджэнне забяспечыць гурт "DALI" - арыгінальнае спалучэнне рытмаў рок-пляцовак і танцполаў, арыстакратычная альтэрнатыўная музыка, натхнёная ідэямі Зігмунда Фрэйда.

Адчуй сябе лузерам і не прыйдзі на адкрыццё фотавыставы менавіта 29.01 а 19.00 у клуб Сім-Сім (г. Гомель, вул. Валгаградская, 45)

Кошт квітка для тых, хто паленаваўся ўдзельнічаць ў фотапалявані: танцпол - 20 000 бел. руб.

Замовіць столік можна загадзя пры ўмове, што ты возьмеш сабе нешта ў бары на 20 000 бел. руб. дадаткова.

УДЗЕЛЬНІКАМ ФОТАПАЛЯВАННЯ просьба звярнуцца да Марысі Тульжанковай (http://vk.com/id26791696), каб атрымаць запрашэнні на вечарыну.

Прыходзце самі ды запрашайце сяброў/сябровак!

*http://nashkraj.info/*

## Гомельскія «пахавальнікі» куплялі інфармацыю пра нябожчыкаў у міліцыі

***Упраўленнем Следчага камітэта па Гомельскай вобласці распачатая крымінальная справа, прадметам якой стаў «зліў» інфармацыі аб памерлых грамадзянах.***

Такія звесткі асабліва цікавыя для тых, хто займаецца аказаннем рытуальных паслуг. Як і на ўсякі попыт, знайшлася прапанова.

У атрыманні хабару падазраецца памочнік дзяжурнага аднаго з аддзяленняў міліцыі, выкрыты супрацоўнікамі 6-га ўпраўлення (па Гомельскай вобласці) Галоўнага ўпраўлення ўласнай бяспекі МУС Беларусі. Высветлена, што грошы міліцыянту перадаваў знаёмы — прадпрымальнік, які мае пахавальны бізнэс. За гэта не абцяжараны этыкай вартавы парадку паведамляў пра людзей, якія памерлі на тэрыторыі, падведамнай АУС. А ўжо камерсант ведаў, як правільна выкарыстоўваць інфармацыю.

Следчыя УСК высвятляюць акалічнасці такога супрацоўніцтва. Не выключана, што колькасны склад фігурантаў справы папоўніцца. Як паказала

Беларус у Амерыцы выпадкова штурхае амерыканца і просіць прабачэння:
- I'm sorry.
Амерыканец тут жа ў адказ:
- I'm sorry too.
Беларус, падумаўшы, адказвае:
- I'm sorry three.
Амерыканец:
- What are you sorry for?
Беларус:
- I'm sorry five!

# Сольны канцэрт Цімафея Яжова (гурт «Мала месца»)

***11 лютага ў 19:00 у клубе Tower (Вул. Кірава, 123) Цімафей Яжоў, лідар гомельскага рок-гурта «Мала месца» выступіць з рэтраспектыўнай акустычнай праграмай.***

У канцэрце вершы, песні і г.д. Уваход 15000 BYR. Па ўсіх пытаннях, датычных канцэрта, звяртацца па тэлефоне +375256454916.

*http://kli4nik.info/*







Для ўдзелу ў канцэрце гурт запрасіў прафесійнага гітарыста, капітана футбольнага клуба "СпБ-09", аб матчы з удзелам якога мы пісалі ў мінулым нумары. Наколькі нам вядома, капітан клуба, гітарыст адмовіўся выступаць разам з гуртом "Мало Места"

Сустрэліся Тарашкевіч і Моцарт.
- Дабрыдзень, маэстра! як маецеся?
- Ды вось, мае рынгтоны на мабільнікі сёньня нікому бадай не патрэбныя... А як самі?
- Цудоўна, дзякуй Дураву! Каму ж цяпер ня трэба +1 да валоданьня мовамі ў анкету ?!

## Гомельскія «пахавальнікі» куплялі інфармацыю пра нябожчыкаў у міліцыі. Працяг

праверка, аналагічным грашылі і работнікі іншых дзяржаўных установаў.

Характэрна, што сама тэма зацікавіла праваахоўныя органы пасля публікацыі ў адным з гомельскіх друкаваных выданняў. У артыкуле расказвалася пра абуральны выпадак, калі памерлая ў лякарні жанчына была ў экстраным парадку пахаваная цалкам староннімі людзьмі. Пры гэтым яны ўмудрыліся атрымаць належную для такіх выпадкаў дапамогу, але нават не знайшлі часу паведаміць сыну памерлай, які жыве ў іншым рэгіёне.

Дарэчы, падобная крымінальная гісторыя ўжо мела месца ў Гомелі некалькі гадоў таму. Тады пагарэлі работнікі моргаў, якія па загадзе кіраўніцтва, а часам праследуючы ўласны інтарэс, забяспечвалі інфармацыяй прыватныя рытуальныя фірмы. Узаемавыгаднае супрацоўніцтва працягвалася, пакуль пра яго не стала вядома ў мясцовым упраўленні КДБ. Па завяршэнні следства былі асуджаныя начальнік абласнога клінічнага паталагаанатамічнага бюро і загадчык арганізацыйна-кансультатыўнага аддзялення.

*region.ej.by*

Пасляваенны час. Школа. Настаўніца пытае у дзяцей: Як загінулі вашы дзяды пад час вайны?
Машка адказвае: мой дзед у разведцы быу, там яго немцы і спаймалі.
Пецька кажа: мой дзед танкістам быу, немцы танк падпалілі.
А Вовачка кажа: а мой дзед у канцлагеры загінуу.
Настауніца: немцы расстралялі? -Ды не, п'яны з вышкі упау!

# Рыхтуй сані летам, а жалезнага каня - зараз!!! прапануе гомельскі байк клуб "БАЙКІ ПРОДКАЎ"

***Байкеры - аматары і прыхільнікі матацыклаў. У адрозненне ад звычайных матацыклістаў, у байкераў матацыкл з'яўляецца часткай ладу жыцця. Характэрным таксама з'яўляецца аб'яднанне з аднадумцамі на аснове гэтага ладу жыцця.***

Далёка не ўсе гамяльчане могуць дазволіць сабе ездзіць на харлей-дэвідсон, не ва ўсіх ёсць матацыкл, а калі ў каго-то і ёсць - то ён нярэдка уяўляе сабой каштоўнасць толькі для цыган, якія здаюць металалом.

Але, як распавядае нам актывіст байкерскага руху "Байкі продкаў" Яўген, для сапраўднага байкера нават адсутнасць байка не з'яўляецца праблемай, каб мець магчымасць быць ў клубе.




Дэвіз клуба "Байкі продкаў" - "калі ў вас завёўся - прыязджай на сход!". І не важна, што ў вас завялося - няхай гэта будзе ІЖ Юпітэр 5, ці ж гэта мапед. Або проста, вы жадаеце пагутарыць з людзьмі, якія дапамогуць вам у куплі або рамонце матацыкла. Дарэчы, далучыцца да руху "Байкі продкаў" вельмі проста - дастаткова адправіць любы ліст на e-mail клуба **motoprodki@gmail.com**

Далучайцеся!

*Алекс Нетрэш*

## КЛАСІКА ЖАНРУ ГумНо

Хто з заснавальнікаў "Гомельскіх Навінак" даў у іх існаванне найбольшы ўнёсак?

Мар'я Смолава 11.1%
Вольга Пыхава 44.4%
Лявон Грос 0%
Ірына Прушынская 11.1%
Міхась Міхнавец 33.3%

*Апытанне з суполкі укантакце* ***http://vk.com/gumno2007***

Адзін наркаман пытаецца ў другога:
- Слухай, а ці ты ведаеш як людзі паміраюць?
Той у адказ:
- Так, ведаю - іх буслы зносяць.

***Гэты нумар выйшаў пры падтрымцы***




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі студзень 2012-2"
Уладальнік выдання - M&S Media

рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012-2"

Тыраж: 267 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com